

# ДЗВІНСКІ ЎЗГОРАК

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець
у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №3 (145)
ЛЮТЫ 2022 ГОДА

БАЦЬКАЎШЧЫНА

# ЯК ПАМІРАЮЦЬ ВЁСКІ ПАД ВІЦЕБСКАМ

**Аляксандр Лядзенка — адзіны і, мяркуючы па ўсім, апошні жыхар вёскі Лядзенкі пад Віцебскам. Мужчыну 56 гадоў, тут ён нарадзіўся і пражыў амаль усё жыццё.**

Апошні жыхар Лядзенак разумее, што ягоная вёска асуджаная. Але верыць у цуд: а раптам тут усё ж такі хтосьці паселіцца? Да яго ў госці з'ездзілі журналісты Анлайнера.

«На здароўе я не скарджуся, але да пенсіі, напэўна, не дажыву. І наша вёска тады ўжо дакладна памрэ», — настрой у вяскоўца не самы вясёлы.

Але потым ён закурвае, усміхаецца і запрашае ў госці. Гаспадарка немудрагелістая: урослая ў зямлю хата, кабыла Малышка, хатняя котка Ёшка і прыблудны кот Базыль. «Ну і я сам-просты вясковы няголены малец Сашка! Так мяне і называйце», — прапануе Лядзенка.

Трохі геаграфіі, каб вы зразумелі, што Лядзенкі — гэта не такая ўжо і глухмень. Ад Віцебска да іх 30 кіламетраў, а за 5 кіламетраў адсюль аграгарадок Замасточча. Гэта чацвёртая станцыя, калі ехаць на дызелі з абласнога цэнтра ў Оршу. А калі дабірацца на машыне, то ад Замасточча ў Лядзенкі вядзе разбітая дарога праз лес. Цяпер яе добра такі занесла снегам, і наша аўто магло б лёгка загрузнуць. Але, на шчасце, да нас дарогу раз'ездзілі вялікія грузавікі, якія прывозяць рабочых — яны абсякаюць старыя дрэвы.

Прозвішча ў Сашы перагукаецца з назвай вёскі: Лядзенка — Лядзенкі. Філасофія ў яго такая:

— Не лічу, што я кроўны мясцовы. Вось калі б я свой дом пабудаваў сваімі рукамі, тады б і лічыў сябе лядзенскім, мясцовым. Мне ж хата дасталася ад бацькоў, і гэта лічыцца «бацькаўшчына».

— Але ж і вёска для вас — таксама бацькаўшчына, хіба не?

— Ну так, за столькі гадоў ужо прыкіпеў да гэтых месцаў. Я жыву ў Лядзенках амаль увесь час, акрамя тых гадоў, калі працаваў у Віцебску кіроўцам. Вазіў начальства, абслугоўваў машыны. Потым фірма развалілася, і я вярнуўся ў вёску. Жыў з бацькамі, а калі яны памерлі, застаўся на гаспадарцы адзін. Трымаў кароў, свіней. Але надакучыла, закінуў. Як гаворыцца, ад гаспадаркі будзеш не багатым, а гарбатым. Зараз кручуся як магу: зімой падзарабляю рубаннем дроў, а вясной і летам — ворывам і касьбой.

У Сашы ёсць сям'я: жонка, дачка, зяць. Жывуць яны ў Віцебску.

— Не, мы з жонкай не разваяліся. Зяць з дачкой да мяне сюды прыязджаюць. Клічуць мяне да сябе. А я — нікуды! Кажу ім: «Я ўжо наеўся вашым Віцебскам». Што ў тым горадзе рабіць? Там чалавек жыве і не ведае, як зваць суседа. Цешча мая жыве ў суседняй вёсцы. Я яе наведваю. Яшчэ ў мяне ёсць сястра. І сябры. Так што я зусім не самотны чалавек, вы не думайце. Проста люблю жыць адзін. Мне ў вёсцы спакайней і весялей, побач з прыродай.

Саша ўжо і сам не верыць, што калісьці Лядзенкі былі вялікімі:

— Было ці то 74, ці то 76 двароў. Дзве калгасныя фермы, стайня! І людзі трымалі шмат жывёлы. Дзесьці да пачатку 1980-х вёска трымалася. А потым пачалі ў Замасточча жывёлу забіраць. Хто працаздольны, таму там і жыллё давалі. Хто ад'язджаў туды, хто ў Віцебск, а хто ў Ноўку (аграгарадок, дзе знаходзіцца «Рудакова» — адно з найбуйнейшых аграрных прадпрыемстваў у Віцебскай вобласці). Увогуле, у пошуках лепшай долі моладзь раз'ехалася. А старыя паволі паміралі. Шкада, вядома, такая вёска была! Колькі моладзі жыло! Вогнішчы палілі каля рэчкі, сядзелі да раніцы, пакуль днець не пачынала. А зімой збіраліся па хатах то ў аднаго, то ў другога: у карты гулялі, у даміно. Вёска грымела!

Цяпер Лядзенкі — гэта адно Сашаў падворак: дом, хлеў і лазня. Ён знаходзіцца на ўскраіне вёскі, далей — рэчка Чарнічанка, поле і лес.

Зараз у Сашы «мёртвы сезон». Часам ён займаецца рубаннем дроў, рамонтам пілаў і косаў. Асноўны заробак у яго, кажа, вясной і летам.

— Узорваем з Малышкай людзям агароды. Тут жа ў ваколіцах шмат адзінокіх старых, каму патрэбна дапамога, а таксама дачнікаў. Замовы прыходзяць загадзя, месяцы за два. Я іх запісваю, каб не забыцца: калі, у каго і колькі трэба ўзараць.

Разлік за ворыва і касьбу просты:

— Лічым так, як раней гэта рабілі нашы дзяды, ну толькі ў пераліку на сучасныя грошы. Вядро бульбы, дапусцім, каштуе 10 рублёў — значыць, узараць «сотку» зямлі — таксама 10 рублёў. Трохлітровы слоік малака каштуе 6 рублёў — столькі ж бяру і за скошаную «сотку». Самы прыбытковы для мяне час — красавік-май, калі садзяць бульбу. Некаторыя гаспадары не толькі даюць грошы, але могуць і запрасіць за стол, пакормяць, чарку нальюць.

Я і свой агарод саджаю. Бульба, морква, бурачкі — у мяне ўсё сваё. Дарэчы, бульба ў Беларусі падскочыла ў цане ў два разы. Быў нядаўна ў Віцебску, прайшоўся па базары. Дык на Полацкім рынку каштуе ад 80 капеек да 1,40 рубля. Я здзівіўся такім цэнам!

Саша ведае, як выратаваць вёскі, што паміраюць.

— Ну вось глядзіце. У тым жа Замасточчы панабудавалі: хата на хаце. Будынкі знаходзяцца блізка адзін ад аднаго, а дзялкі ў людзей зусім маленькія: таго агарода «сотка» якая, ну няхай пяць «сотак». І гэта называецца «абнаўленне вёскі»!

А вось дзе трэба абнаўляць сяло, — мужчына паказвае рукой на пустую вуліцу за сваёй хатай. — Пастаўце тут хаты. Ферму пабудуйце. І людзі жылі б! А так то праўда, вымíраюць вёскі. Трымаюцца толькі «цэнтры». Такія вёскі, як нашы Лядзенкі, амаль на кожным кроку. За два з паловай кіламетры ад нас Чарнецкі Мох — дык там жыве цяпер некалькі чалавек: старая адна, ляснік з жонкай, малец адзін, малады яшчэ, у калгасе працуе, а астатнія дачнікі.

Апошні жыхар Лядзенак разумее, што ягоная вёска асуджаная. Але верыць у цуд: а раптам тут усё ж такі хтосьці паселіцца?

**"Анлайнер"**



РЭФЕРЭНДУМ

# «ПРАФІЛАКТЫЧНАЯ ГУТАРКА» ЗА СКАРГУ

**Назіральніку ад партыі «Справедливый мир», які заўважыў парушэнні на выбарчым участку ў Віцебску, адмовілі ў паўнавартасным назіранні і выклікалі ў пракуратуру.**

Вадзім Кузьмін зарэгістраваны назіральнікам на некалькіх участках па правядзенню рэфэрэндума ад арганізацыі партыі «Справедливый мир». У першы дзень датэрміновага галасавання ён наведаў выбарчыя ўчасткі ў Чыгуначным раёне Віцебска і заўважыў парушэнні: ня вывешаныя для азнаямлення спісы сяброў участковых камісіяў, а скрыні для бюлетэняў апячатаныя так, што можна прасунуць і кулак.

Пакуль партыец пісаў скаргі ў раённую камісію ды пракуратуру, яму паведамілі, што назіраць за працэсам на ўчастку ён ня зможа. Галоўная прычына — каранавірус. Яму сказалі: «З прычыны каранавірусу ў краіне, дзеля вашай бясьпекі, для захаваньня вашага здароўя, мы адмаўляем вам у магчымасьці назіраць. Да таго ж у нас на ўчастку ўжо ёсьць тры назіральнікі».

Не пасьпеў Вадзім Кузьмін прыйсьці дадому, як яму патэлефанавалі з пракуратуры і запрасілі прыехаць да іх для «прафіляктычнай гутаркі». У выпадку, калі ён не прыедзе ў пракуратуру сам, прыгразілі, што пракурорскія супрацоўнікі прыедуць да яго самі (у кватэру, дзе жыве ў тым ліку ягоная 92-гадовая хворая маці).

Заўважым, што ніводнага члена партыі «Справедливый мир» не ўключана членамі участковых камісій па правядзенню рэферэндума.

**А.Адамаў**

ЗА КРАТАМІ

# ЖЫЦЦЁ НА «ВІЦЬБЕ»

**Зьняволены адвакат Максім Знак жыве ў віцебскай калёніі «Віцьба» больш за месяц. Ён перахварэў на ангіну, схуднеў, пагаліўся як Брус Уіліс, абразае ніткі з «барбухаек», выйграе ў інтэлектуальныя гульні і па-ранейшаму піша жартаўлівыя пасланьні бяз скаргаў на жыцьцё.**

Пра фэномэн Знака расказаў ягоны бацька Аляксандар.

**Страціў фірму, атрымаў 10 гадоў узмоцненага рэжыму**

Максіму Знаку 40 гадоў. У Менску ў яго жонка Надзея і 14-гадовы сын Алесь. Сям'я будавала дом. Сужэнцы мелі юрыдычную фірму. Максім быў вядомым адвакатам, уваходзіў у сусьветныя рэйтынгі. Ва ўнівэрсытэце меў чырвоны дыплём, скончыў асьпірантуру, абараніў кандыдацкую.

Дамогся посьпеху яшчэ ў шэрагу сфэраў: атрымаў званьне кандыдата ў майстры спорту ў трыятлёне, хадзіў у горы, сплаўляўся па горных рэках, хадзіў пад ветразем, пісаў песьні, сьпяваў пад гітару, гуляў у «Што? Дзе? Калі?». Плянаваў узысьці на Эвэрэст і пераплысьць Гібралтар.

У 2020 годзе ён далучыўся да каманды Віктара Бабарыкі, які хацеў стаць прэзыдэнтам. 9 верасьня Знака затрымалі. Суд быў закрыты. Максіму далі 10 гадоў калёніі ўзмоцненага рэжыму, у тым ліку, за «спробу захопу ўлады ў Беларусі». За кратамі ён ужо амаль паўтара года. Ён стаў юрыстам, які ня здолеў абараніць сябе, тлумачыць яго бацька.

«Макс — „рэцыдывіст“», — раптам кажа ён. У 2006 годзе сын быў у намётавым мястэчку на Плошчы і трапіў на 13 содняў у Жодзіна.

Цяпер Максіму на год дазволеныя тры кароткія спатканьні і два доўгатэрміновыя, аднак, ён кажа, «іх трэба заслужыць», як і званок праз відэасувязь. Проста праз тэлефон вязень можа тэлефанаваць сваякам прыкладна раз на 8 дзён.

*(працяг на стар. 2)*

ЗА КРАТАМІ

*(пачатак на стр. 1)*

Знака этапавалі з «Валадаркі» перад Новым годам, 29 сьнежня. Этап цягнуўся амаль 2 тыдні з транзытам. 8 студзеня яго прывезьлі ў калёнію № 3, што пад Віцебскам, у пасёлку Віцьба. Адсюль і народная назва ўстановы. Яе лічаць паказальнай. Тут сядзяць чыноўнікі, бізнэсоўцы, сілавікі.

Бацька і сястра вязьня сталі ягоным «інфармбюро» і выкладваюць у сеткі амаль усе вестачкі пад хэштэгам #невероятные_письма. Іх ужо назьбіралася на кнігу, толькі бацька атрымаў больш за 400.

Максім падлічыў, што выйдзе на волю 17 студзеня 2030 году. Гэтую дату ён мусіць паўтараць на праверках.

«Сёньня я даведаўся, што бываюць дні, калі амаль усе мары зьдзяйсьняюцца. Толькі ўяві! Сёньня я хвілін 10–15 быў у лазьні, а таксама атрымаў іголку і нітку, а яшчэ пстрыкалку для пазногцяў», — напісаў Максім бацьку зь віцебскага СІЗА перад «Віцьбай».

У калёніі Максіма ўразіла сонейка, якое ён бачыў летась толькі 5 разоў, а асабліва — месяц ноччу, якога ня бачыў даўно.

«А яшчэ — уяві такі цуд! — у кране ёсьць гарачая вада. Вось гэта таксама дзіва дзіўнае. Але галоўнае дзіва, што кожную гадзіну можна выходзіць на вуліцу і там дыхаць, дыхаць, дыхаць і глядзець у неба, якое нарэшце не за кратамі», — апісаў цуды калёніі Знак.

Аляксандар Знак расказвае, што хлопец загартоўваўся зь дзяцінства. У 7 гадоў ён адзін у лодцы прайшоў 150 кілямэтраў па рацэ Ісламы. У 8 гадоў сплаўляўся на сламе ў Карэліі, у 9 — на Кольскім паўвостраве. У 10 гадоў ён разам з бацькам пайшоў у першы горны паход па Вялікім Каўказкім хрыбце. Калі крыху заблукалі і бацька прыхварэў, Максім яго падтрымліваў.

«Можа, тады ён убачыў, што цяжкасьці лягчэй пераносіць, калі ўсьміхаешся», — робіць высновy суразмоўца.

Аляксандар мяркуе, што сыну цяжка ў турме. Жартаўлівы тон — гэта і каб блізкія менш хваляваліся, і як супраціў тым, хто пасадзіў.

«Ён трымаецца, ён добрую маску на сябе нацягнуў», — кажа бацька.

**— Як вы думаеце, Макс расчараваўся ў тым, што рабіў у 2020 годзе?**

— Калі б ён быў нармальны чалавек, то ён павінен расчаравацца. А што ён набыў? Для грамадзтва, магчыма, гэта мае пэўнае значэньне. Макс згубіў абсалютна ўсё: ён зарабляў добрыя грошы, захапляўся ўсім, чым толькі можна захапляцца, і жонка добрая, і сын добры, фірма добрая, сяброў у любой галіне шмат... Жыцьцё ў нас адно, з кожнай хвіліны павінна сыходзіць нейкая карысьць, а там карысьць невялікая, — кажа суразмоўца.

Ён думае, што калі Максім вызваліцца, то яны наўрад ці будуць узгадваць турэмны пэрыяд, настолькі гэта балюча.

**#невероятные_письма**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

# 12 ТЫСЯЧ ПАКАРАЛІ РУБЛЁМ

**Менавіта столькі жыхароў Віцебскай вобласці ўлады запісалі ў дармаеды, яны будуць аплачваць падвышаныя рахункі за камунульныя паслугі. Пра гэта заявіў старшыня камітэту па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Віцебскага аблвыканкаму Аляксандр Хрыстафораў.**

Жыхары вобласці, якія трапілі ў гэтую катэгорыю, вымушаныя аплачваць так званы «падатак на дармаедства» – разлічвацца за камунальныя паслугі па падвышаных тарыфах.

Як запэўніў журналістаў аднаго з праўладных выданняў Аляксандр Хрыстафораў, зроблена гэта не таму, што ў дзяржавы няма магчымасцяў дапамагаць беспрацоўным або праз неэфектыўнасць эканомікі, а толькі «у мэтах дадатковага стымулявання да працаўладкавання».

Паводле інфармацыі чыноўніка, каб скласці і ўпарадкаваць гэты спіс «дармаедаў», абавязаных аплачваць павышаныя камунальныя плацяжы, у 2021 годзе 26 адпаведных камісіяў правялі 796 пасяджэнняў, з якіх 138 былі выязнымі. Праз падобныя камісіі прайшло каля 66000 жыхароў Віцебскай вобласці.

У адпаведнасці з Дэкрэтам №3 «Аб садзейнічанні занятасці насельніцтва» і пастановай Савету міністраў «Аб вызначэнні паслуг, якія прадастаўляюцца працаздольным грамадзянам, не занятым у эканоміцы…», грамадзяне абавязаныя аплачваць па падвышаных тарыфах ацяпленне, гарачае водазабеспячэнне і газазабеспячэнне пры наяўнасці газавага ацяпляльнага абсталявання.

У сярэднім, напрыклад, за ацяпленне такім грамадзянам даводзіцца плаціць у 5 разоў больш, чым астатнім. А ў цэлым аплата за камунальныя паслугі павялічваецца ў некалькі разоў.

Увядзенне "падатку на дармаедства" ад самага пачатку выклікала абурэнне беларусаў. У 2017 годзе па ўсёй краіне прайшлі масавыя акцыі пратэсту з патрабаваннем яго скасаваць. У Віцебску ў тым годзе на мірную акцыю выйшла каля 3000 чалавек. Пасля масавых пратэстаў улады былі вымушаныя адмяніць падатак. Але, калі напружанне спала, увялі зноў, ужо ў змененым выглядзе.

**А.Адамаў**

КУЛЬТУРА

# ЮНЫЯ ЭКСКУРСАВОДЫ З ЗАРОНАВА

**Візітнай карткай комплекснага музея «Гісторыя Заронаўскага краю» з'яўляюцца юныя экскурсаводы, якія прымаюць гасцей разам са сваёй настаўніцай.**

У далёкім 1986 годзе музей у Заронаве пачаў сваю дзейнасць. Тады ён быў школьным і ўяўляў сабой адзін пакойчык баявой славы. Потым дабудавалі «Беларускую хату», пасля — некалькі новых залаў. Праз дзесяць год плённай працы музею было прысвоена званне «народны», у 2006 і 2012 г.г. званне двойчы пацверджана.

Сёння сапраўдны культурна-адукацыйны комплекс адносіцца да ДУА «Заронаўскі дзіцячы сад Віцебскага раёна», змяшчае 8 выставачных залаў, экспазіцыі пад адкрытым небам і больш за 30 тысяч экспанатаў. Штогод захавальнікі музейных каштоўнасцей Людміла і Станіслаў Нікіціны разам з юнымі экскурсаводамі прымаюць каля 2000 гасцей, геаграфія наведвання шырокая: Расія, Казахстан, Аўстралія, Германія і інш. Турыстаў і гасцей нашай краіны няспынна сустракаюць хлопчыкі і дзяўчынкі на пявучай беларускай мове.

Дынастыя юных экскурсаводаў тут пачалася 35 гадоў таму. Пачынальнікі гэтай справы былі вучнямі Людмілы Нікіцінай, якая працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў Заронаўскай школе.

— Тады я была зусім юная, разам з дзецьмі прыдумвалі экспазіцыі, збіралі экспанаты і пісалі гісторыю, рабілі першыя свае памылкі, — з цеплынёй успамінае Людміла Канстанцінаўна.

Не адно пакаленне вучняў паспяхова прайшло праз Нікіціну, сёння аб'яднанне па інтарэсах «Юныя экскурсаводы» наведваюць іх дзеці, працягваючы слаўную бацькоўскую справу. Поруч з Людмілай Канстанцінаўнай працуе яе сын Станіслаў, які ад маці захапіўся краязнаўствам, вядзе актыўную пошукавую працу.

Зараз у аб'яднанні займаюцца 12 чалавек. Самымі юнымі з'яўляюцца Сафія Зіміна і Настасся Бурунова — вучаніцы 3 класа Суйкаўскай базавай школы. Яны пачалі сваю музейную дзейнасць яшчэ будучы ў дзіцячым садку, калі Людміла Канстанцінаўна працягнула дзяўчынкам далонь у цікавы свет краязнаўства. Мікіта Шыбека — ужо прафесіянал у гэтай сферы, не раз станавіўся пераможцам рэспубліканскіх конкурсаў.

— Адметнасцю нашага музея з'яўляецца беларуская мова. У незалежнасці ад таго, з якой краіны прыехалі госці, для ўсіх аповед вядзецца толькі па-беларуску. Мы з дзецьмі размаўляем паміж сабой таксама на роднай мове, за столькі гадоў ужо прывыклі, па-іншаму ніяк, — усміхаецца Нікіціна.

Цікава, што хлопцы і дзяўчаты, акрамя тэматычнай экскурсіі, расказваюць пра рэчы сваіх сямей. Лена Іванова спыняецца каля калекцыі каляровых ікон, якія вышывае яе маці; Мікіта ў гістарычнай зале звяртае ўвагу прысутных на ледабур, які падарыў музею яго дзядуля Саша. У гэтым і заключаецца галоўная роля патрыятычнага выхавання ў музеі — ведаць, адкуль карані твае, адкуль твой род пачаўся.

Штогод рэалізуецца шмат цікавых праектаў. На кожным раённым мерапрыемстве яшчэ здаля можна запрыкмеціць Заронава, а «ваенны штаб» з цікавымі экспанатамі не мінае ніводны зацікаўлены. Гэты праект «Музей у чамадане» знайшоў сваю папулярнасць сярод усіх пластоў насельніцтва: экспанаты рознай тэматыкі збіраюцца ў чамаданы, і аўтобус з юнымі экскурсаводамі вандруе па аддаленых вёсках. Зацікаўленым слухачам прапануюць акунуцца ў Савецкі Саюз, пабыць піянерам і паслухаць «На сопках Маньчжурыі» на патэфоне.

Дзякуючы працавітасці і плёну, за 2021 год скарбонка перамог Заронаўскага музея папоўнілася 30 узнагародамі розных узроўняў. Чарговай стала 3 месца на рэспубліканскім этапе конкурсу «Юных экскурсаводаў» у намінацыі «Гісторыя аднаго экспаната» Дар'і Зімінай. Увогуле не хопіць часу, каб дагартаць да канца «сямейны альбом» музея.

Наперадзе — новыя вяршыні, якія можна дасягнуць толькі пры дапамозе стараннасці, упартасці і дабрыні, незгасальнай любові да сваёй справы і роднага куточку, у якім жывеш.

**Аляксандра ГВОЗДЗЕВА**
**"Жыццё Прыдзвіння"**

ГОД ПАМЯЦІ

# ПРАЕКТ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

**Раённая газета «Жыццё Прыдзвіння» далучаецца да праекта Міністэрства інфармацыі і Уладзіміра Ліхадзедава «Бацькаўшчына», прысвечанага Году гістарычнай памяці.**

У межах гэтай ініцыятывы мы на працягу года будзем расказваць і паказваць вам, паважаныя чытачы, як выглядалі вядомыя архітэктурныя аб'екты Віцебскага раёна ў мінулым і сучаснасці. Праз пару гэтых фотаздымкаў прапануем вам разам з калектывам рэдакцыі прасачыць, як змяняліся населеныя пункты раёна пад уплывам розных векавых падзей. А галоўнае — вывучыць, зберагчы і папулярызаваць багатую гістарычную спадчыну Беларусі.

Першым аб'ектам нашага падарожжа ў мінулае стала сядзіба Уладзіміра Адамава ў Вялікіх Лётцах. Выдатны знаўца флоры беларускага Палесся і Крыма жыў у Лётцах у радавым маёнтку на мяжы XIX-XX стагоддзяў. Навуковец стварыў батанічны сад з невядомымі дагэтуль раслінамі, меў сваю бібліятэку і гербарый. Ганарыўся Уладзімір Уладзіміравіч калекцыяй розных сартоў бэзу, што цвіў у маёнтку на працягу некалькіх месяцаў.

Тут налічвалася каля 400 відаў драўняных раслін і больш за 2000 шматгадовых травяністых, была сабрана аранжарэя з 300 відамі экзатычных раслін. Ён пасадзіў і дуб — не надта характэрнае для нашага рэгіёна дрэва, якое і сёння з'яўляецца для жыхароў вёскі магутным гістарычным артэфактам, да яго можна дакрануцца. Геабатанік прывёз з-за мяжы на поўнач Беларусі лекавыя і ландшафтныя расліны. Сад заняпаў, калі Адамаў пакінуў маёнтак у 1920-х гадах, але значная яго частка захавалася ў Віцебскім батанічным садзе.

Пасля нацыяналізацыі маёнтка савецкай уладай яго аддалі пад дзіцячы дом, апошнія некалькі дзясяткаў гадоў будынак пуставаў і паціху руйнаваўся. У 2019 годзе сядзібу выкупіў прадпрымальнік. У планах новага гаспадара — зрабіць маёнтак культурным цэнтрам, дзе будуць ладзіць канцэрты, квэсты і прымаць турыстаў у міні-гасцініцы. Вялікая плошча будынку дае магчымасць арганізаваць нават музейны пакой з экспанатамі. Спадзяемся, што ўсё задуманае спраўдзіцца, і сядзіба Уладзіміра Адамава стане цікавым аб'ектам з новым подыхам на турыстычнай карце Віцебшчыны.

*ФАКТ. У Вялікіх Лётцах добрай традыцыяй стала правядзенне Адамаўскага фэсту, арганізатарам і ідэйным натхняльнікам якога з'яўляецца краязнаўца Міхаіл Дук. Зацікаўленым турыстам прапаноўваюць здзейсніць падарожжа па знакавых мясцінах, наведаць сядзібу Адамава, пакаштаваць стравы нацыянальнай кухні і адпачыць на спеўным сходзе.*

**Аляксандра ГВОЗДЗЕВА**
**«Жыццё Прыдзвіння»**

АГРЭСІЯ

# ПЕРЕГОВОРНЫЙ ПРОЦЕСС ИСПОЛЬЗОВАЛСЯ МОСКВОЙ ДЛЯ ПРИКРЫТИЯ ПЛАНОВ ВТОРЖЕНИЯ

**Оно произошло — неожиданно и вероломно, как в 1941 году. Аналитик Павел Мацукевич пишет о последствиях российской агрессии для Беларуси. «Кремль не удосужился состряпать хотя бы хрупкую провокацию, а просто обвинил Украину в том, что она есть».**




— Скажу откровенно: в моих раздумьях возможности масштабного вторжения РФ в Украину не находили разумных аргументов в свою пользу. Однако вторжение произошло — неожиданно и вероломно, как в 1941-м. Владимир Путин настаивает, что оно вынужденное и называет такие причины, что стыдно даже за него. Кремль не удосужился состряпать хотя бы хрупкую провокацию, а просто обвинил Украину в том, что она есть.

Оценивать агрессивные действия РФ с рациональной точки зрения сложно и, наверное, бессмысленно. Можно с моральной, а лучше с правовой. Хотелось бы, чтобы дошло до всех в Беларуси, что страна втянута в очень злое дело и молчать, а тем более оправдывать это, мягко говоря, неприлично.

Международная дипломатия оказалось не способной сдержать Россию. Очевидно, переговорный процесс использовался Москвой для прикрытия планов вторжения и прощупывания почвы — на что готов Запад, а на что нет. Пока Россию уговаривали не нападать на Украину, Кремль готовился к нападению, сливая ложные даты.

К сожалению, Запад не стал брать Украину под свою военную защиту, сформулировал только санкционный ответ на угрозу и начал поставлять оружие, которое, очень может быть, лишь подогрело агрессию Москвы.

Сложно сказать, как далеко простираются цели путинской России. Не исключено, что Кремль вознамерился сменить власть в Украине на прокремлевские силы. Вполне возможно после этого российские военные вернутся в РФ и Беларусь во избежание обвинений в оккупации, но не факт. Да-да, нужно свыкнуться с мыслью, что просто так из Беларуси они уже не уйдут.

Куда важнее, что этому вторжению противопоставит Запад. Пока, по всей вероятности, речь идет о жестком санкционном ответе. Он наверняка будет чувствительным для России (бедные — обеднеют), но замыслы Кремля важнее. В демократиях правительства думают о каждом, в России царь думает о важном. Пострадает бизнес, люди, но разве родину ГУЛАГа напугать отключенным СВИФТом?

Кремль наверняка оценивал возможные риски, но все равно пошел на вторжение, понимая, что привитое ложным патриотизмом население «стерпит-смирится» с вероятными невзгодами. Голоса несогласных заткнут милицейской дубинкой.

Энергетическая зависимость от РФ хорошо разъедает международную изоляцию. Есть и другая штука — даже самые жесткие из санкций с течением времени смягчаются, часто просто по мере смены правительств в западных странах. На Западе ротация политиков проходит каждые 4-5 лет, кому-то удается остаться у власти на два срока.

Значит, где-то в диапазоне 5-10 лет или около этого со всей вероятностью начнется смягчение. В России правят дольше и могут подождать и дождаться, когда Запад выступит инициатором возобновления диалога, как это было после российско-грузинской войны в 2008 году. В Кремле на это рассчитывают.

Во всей этой истории наиболее позорная роль у Беларуси. РФ развязала войну, поставив целью «денацификацию и демилитаризацию Украины», что в переводе на любой язык называется агрессией. Украина обороняется, защищает свою свободу, независимость, территорию, граждан, жизнь, поэтому ее война справедливая. За что «сражается» Беларусь на стороне агрессора?

Беларусь влезла не «за», а «из-за». Путинская Россия идет на поводу у своих целей и интересов. Беларусь идет тоже на поводу путинских. Лукашенко задолжал Кремлю и втянул нас в войну, предоставив территорию нашей страны для российских военных и вооружений и этим оформив соучастие в агрессии.

Беларусская территория была использована Россией для наступления на Украину. Лукашенко отрицает участие наших вооруженных сил в боевых действиях. Возможно, это и так, но где гарантии, что так и будет?

Из этой истории есть только один приличный выход — выход из войны. Это означает осудить агрессию и потребовать от руководства России немедленного вывода с территории Беларуси российских войск.

Лукашенко не может даже декларативно дистанцироваться от вторжения РФ в Украину. Хуже того, он обвинил в российской агрессии Киев. От бессилия что-ли.

Последствия соучастия Беларуси в нападении на Украину будут болезненными и морально, и материально. Экономический ущерб пока сложно калькулировать. На коротком историческом отрезке, наша страна определенно ощутит на себе воздействие новых санкций.

**gazetaby.info**

НОБЕЛЕЎСКІ ЛАЎРЭАТ

# “ЧЫРВОНЫ ЧАЛАВЕК ЗНОЎ ПАДНЯЎСЯ І ДАЕ НАМ БОЙ. СПАДЗЯЮСЯ, АПОШНІ”

**Нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч аб тым, навошта Пуціну вайна, чаму ўдзел у ёй Беларусі — здрада і што будзе з Украінай далей.**

Апошнія тыдні Святлана Алексіевіч уважліва сачыла за тым, што адбываецца ва Украіне, але яшчэ літаральна ўчора не магла сабе ўявіць, што пачнецца вайна і рэальныя баявыя дзеянні, піша dw.com. У пачатку лютага яна дыскутавала з пісьменніцай Гертай Мюлер і пераконвала яе, што «Пуцін не вар'ят» і не можа так паступіць. «Аказваецца, можа», — са шкадаваннем кажа нобелеўскі лаўрэат.

***— У вас ёсць разуменне — навошта Пуціну вайна?***

— Думаю, ён адчувае сябе Месіяй. Рэдкі чалавек можа застацца ва ўладзе так доўга і выстаяць перад яе спакусай, як, напрыклад, здолела Ангела Меркель. Пасля двух тэрмінаў пачынаецца адрыў чалавека ад рэальнасці, ён жыве ва ўласнай прасторы, якая выбудоўваецца з кавалкаў зносін са сваім асяроддзем. А такія людзі ў асноўным маюць зносіны з сілавікамі. Аляксандра Дугіна ў 1990-я, у часы дэмакратыі, лічылі маргіналам. А сёння гэта прыдворны філосаф Пуціна.

***— Сёння Уладзімір Зяленскі звяртаўся не толькі да ўкраінскага народа, але і да расіян: заклікаў пратэставаць супраць вайны. Як думаеце, Расія прачнецца?***

— У мяне вялікія сумневы. Магчыма, толькі калі з'явяцца першыя труны. Чамусьці здаецца, што загінулых будзе шмат.

Расійскаму народу патрэбны час. У яго цяпер нейкая анемія, ён быццам у летаргічным сне ад таго, што перажыў, ад таго, што многае не прагаворана ў грамадстве. А гэта так важна. Немцы кажуць і кажуць аб нацызме, хоць столькі гадоў прайшло. Ужо некаторыя нават выступаюць супраць: «колькі можна каяцца?» А яны каюцца і каюцца, пакольні, напэўна, не давяраюць чалавечай прыродзе. І гэта дае плён: у гэтым грамадстве прыемна жыць, улада знаходзіцца ў руках у разумнай большасці.

Хутчэй, людзі выйдуць і будуць пратэставаць у Германіі, Партугаліі, Іспаніі. Наконт расіян — не ведаю. З беларусамі больш зразумела: выйсці на вуліцу цяпер — значыць трапіць у турму, дзе над людзьмі жорстка здзекуюцца.

***Святлана Алексіевіч мяркуе, што сёння пуцінская Расія ўяўляе сабой абражаную прыніжаную імперыю, а такія дзяржавы здольныя на страшныя дзеянні. Прыклад таму — нацысцкая Германія 1930-х гадоў.***

— Тое, што мы сёння назіраем, — гэта 1930-я гады, калі да ўлады ў Германіі прыйшоў чалавек і сказаў: «Я падыму вас з каленяў, мы будзем вялікай дзяржавай». Пачынаў ён сапраўды гэтак жа: вяртаў «свае» зямлі — Судэты, тэрыторыю Польшчы. А потым пайшоў заваёўваць ўвесь свет. Па-мойму, так пачынаецца фашызм.

Цалкам зразумела, што Пуцін не спыніцца на бамбёжках Украіны, напэўна будуць акупаваныя ўкраінскія тэрыторыі, пачнецца доўгая партызанская вайна. Бо ўкраінцы не тыя людзі, якіх можна проста разагнаць.

Але яны не хацелі ваяваць і ўвесь час шукалі шляхі для перамоваў па Данбасе. Цяпер многія гатовыя абараняць сваю Радзіму. У цэлым, у мяне сёння нават не хапае слоў, каб зразумець тое, што адбылося і выразна пракаментаваць. Дарэчы, вырашыла, што кніга пра Беларусь не будзе заканчвацца толькі нашымі праблемамі. У ёй будзе выхад на вайну, на тое, што адбываецца. Што «чырвоны чалавек» не памёр — ён зноў падняўся і зноў дае нам бой. Спадзяюся, апошні.

***На думку Святланы Алексіевіч, Лукашэнка ўсведамляе, што знаходзіцца ва ўладзе Пуціна, але ён не можа не падтрымаць Расію ў гэтай кампаніі: для яго гэта адзіны спосаб захаваць уладу і выжыць палітычна.***

— Не думаю, што ён хоча ўдзельнічаць у вайне з украінцамі. Але ён будзе пастаўлены перад фактам. Яго абмяюць крывёю, як ён сам абмыў сваіх сілавікоў. Гэты прынцып усюды дзейнічае аднолькава. Яны ж не жывуць па законах дыпламатыі, грамадзянскай супольнасці. Гэта ўсё — не хочацца прамаўляць гэтыя словы — бандыцкія паняцці.

Калі я слухала лекцыю Пуціна пра памылкі Леніна, у мяне ўзнікла пытанне: дзе ён нахапаўся гэтай няпраўды, гэтых паўзнанняў, якія яму выклікала непісьменнае асяроддзе? Нібы Украіна — гэта неспадзяваная краіна з больш за 40 мільёнамі жыхароў. Хоць за сябе і сваю свабоду яна ваявала яшчэ з Кацярынай Другой.

***— Украінцы сталі ворагамі з Расіяй калі не на стагоддзі, то дакладна на дзесяцігоддзі. Як у гэтай сітуацыі не пасварыць украінцаў і беларусаў, калі расійскія войскі прыйшлі ў тым ліку з тэрыторыі Беларусі?***

— Пра гэта павінен думаць Лукашэнкі, калі ён называе сябе галоўнакамандуючым. Інакш гэтая разяўленая рана надоўга застанецца ў гісторыі. Украінцы апошнім часам перанеслі столькі выпрабаванняў і панеслі шмат ахвяр. Для іх удар ад Беларусі — гэта як удар у спіну, здрада. Нядаўна я глядзела рэпартаж журналістаў, якія гаварылі з людзьмі, якія жывуць на беларуска-ўкраінскай мяжы. «Што вы? Беларусы — нашы браты, яны ніколі не будуць у нас страляць», — сказалі ўкраінцы. І вельмі падобна адказвалі беларусы: «А што нам зрабілі ўкраінцы? Нічога». Простыя людзі разумнейшыя палітыкаў. Сёння нашы грамадства абагналі іх.

Украінцы вельмі горды народ — я ўсё дзяцінства правяла сярод іх. Што б яны цяпер ні рабілі — хадзілі па вуліцах, размаўлялі адзін з адным — над імі цяпер вайна. Але нават вайной гэта нельга назваць — гэта здрада, калі браты раптам усаджваюць у спіну нож. Я не думала, што сама магу апынуцца на вайне, калі ўвесь час разглядала яе збоку, нават калі была ў Афганістане. А цяпер мы на вайне.

Страшна ўявіць сабе, што будзе з людзьмі, якія будуць ваяваць. Яны ж думалі жыць у будучыні, а не ў мінулым...

*(пераклад)*

**«Новы Час»**

ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

# РОДНАЯ МОВА: ГАНАРЫЦЦА, ВЕДАЦЬ, УЗБАГАЧАЦЬ

**У кожнага народа ёсць хаця б адзін геніяльны твор — гэта яго мова** (рэд. — так сказаў наш паэт Алесь Разанаў). **Выказванне, з якім нельга не пагадзіцца. Недарэмна ў свеце вось ужо больш за дваццаць гадоў адзначаецца Дзень роднай мовы... Той самай, што, па выразе Максіма Танка, сатканая ў нас «з легендаў і казак былых пакаленняў, з калосся цяжкога жытоў і пшаніц, з сузор'яў і сонечных цёплых праменняў, з грымучага ззяння бурлівых крыніц...».**




Час ідзе, змянілася вёска, якая традыцыйна лічылася захавальніцай слоўных скарбаў, з'явіўся інтэрнэт, які размывае ўсе наяўныя нормы і перакройвае свядомасць, дадалося эксперыментаў літаратараў... Як гэта паўплывала на беларускую мову? Разважаюць дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Алесь Бадак, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры медыялінгвістыкі і рэдагавання журфака БДУ Пятро Жаўняровіч і я, пісьменніца, рэдактар аддзела культуры «Звязды» Людміла Рублеўская.

**Пра мову літаратурную і ўжытковую**

Л. Рублеўская. Мова — адзіная жывая стыхія, але заўсёды існуюць побач мовы ўжытковая і літаратурная... А ёсць яшчэ і мова мастацкіх твораў. Як яны сёння адрозніваюцца? Калі на пачатку ХХ стагоддзя выпрацоўвалі нормы літаратурнай мовы, гэта быў вельмі складаны працэс. Напрыклад, выбіралі, гаворку якога рэгіёна ўзяць за ўзор. Сёння ж у кожнай мастацкай кнізе, лічыце, свой моўны канон... Можа, гэта і слушна?

П. Жаўняровіч: Літаратурная мова — прыкмета адукаванага чалавека. Але нярэдка класічныя мастацкія творы маюць уплыў дыялектаў, такім чынам, у Івана Пташнікава — адзін варыянт мовы, у Вячаслава Адамчыка — другі, у Івана Мележа — трэці... Увод у мову дыялектызмаў — пытанне адкрытае. Яны, з аднаго боку, папаўняюць мову, з другога — ці паўсюль іх можна выкарыстоўваць?

А. Бадак: Калі я працаваў у «Бярозцы» ў пачатку 1990-х, мы шмат эксперыментавалі з мовай... Ужывалі тарашкевіцу, прыдумлялі новыя словы... Не ведаю, як ставіліся да гэтага мовазнаўцы.

Л. Р.: Тады быў час, калі імкліва мянялася жыццё, у такія перыяды, думаю, кожны мае права зрабіць свой унёсак, узбагачаць мову як можа, а час непатрэбнае адсее. І не мовазнаўцы, а пісьменнікі мову ўзбагачаюць. І я за тое, каб як мага больш і цяпер дадавалася — новых слоў, формаў...

П. Ж.: Трэба ў літаратурнай мове трымацца нормы. Гэтак у Расіі абураліся — як гэта мы будзем выкарыстоўваць слова «кофе» толькі ў мужчынскім родзе? Але калі сёння ў інтэрв'ю чалавек кажа «вкусное кофе», гэтым паказвае сваю культуру маўлення. У нас жа няма законаў, як у той жа Францыі, калі праглядае СМІ спецыяльная камісія і штрафуе выдадзены за выкарыстанне непатрэбных англіцызмаў.

А. Б.: Адно, калі мы кажам пра формы слоў, скажам, «наагул» ці «наогул», і іншае, калі кажам пра дыялекты. У нас у выдавецтве ў серыі «Залатая калекцыя беларускай літаратуры» выйшаў том беларускага апавядання 1920–30-х гадоў. Мне ён цікавы словамі, многія з якіх проста забытыя. І важна, каб як мага болей такіх сакавітых слоў захавалася ў мастацкіх тэкстах, таму што носьбіты, на вялікі жаль, сышлі…У горадзе беларускамоўная інтэлігенцыя гаворыць менавіта на літаратурнай мове, і ў любым горадзе яна гучыць падобна... У той час як прыедзеш у вёску на Брэстчыне — пачуеш агромністую розніцу з мовай, на якой гавораць у вёсцы на Віцебшчыне.…

**Пра крыніцы ўзбагачэння**

П. Ж.: Так, мова — жывы арганізм, яна ўвесь час узбагачаецца. Сёння, напрыклад, з'явілася шмат новых слоў, звязаных з каранавірусам. Але ў апошнім акадэмічным слоўніку беларускай мовы 2012 года слова «каранавірус» няма. Расіяне выдаюць новы слоўнік раз на год, у нас дзесяць прайшло... Сярод крыніц узбагачэння мовы — дыялектызмы, гістарызмы. Калі ў 1990-х мы пісалі, што Францыск Скарына атрымаў званне бакалаўра, гэта слова было ў пасіўным складзе мовы. Сёння словы «магістр», «бакалаўр» вярнуліся ў актыўны ўжытак.

Л. Р.: Але ж ведаю выпадкі, калі словы і сёння адмыслова прыдумляюць ці адшукваюць, каб папулярызаваць.

П. Ж.: Можа, нейкія такія словы і прыжывуцца. Працэс сціскання мовы не спыніцца. Таму што мы ніколі не скажам сёння «пабягу на маршрутнае таксі», скажам: «на маршрутку». А Ірына Шкраба ў сваім слоўніку падае больш за дзве тысячы безэквівалентных слоў: «сёлета», «знічка», «палавець»... Вось дзе трэба браць багацце — з народнай мудрасці!

Л. Р.: Ва ўрыўку са свайго рамана, які ўзялі для ўсебеларускай дыктоўкі, я адмыслова пакінула слова «цікавостка», хоць тады гэта не было маім звычайным ужытковым словам. Вырашыла трохі падтрымаць распаўсюд гожага слоўца.

П. Ж.: Калі слова ўжывае ў сваіх творах некалькі пісьменікаў, яго спакойна можна браць у картатэку. Памятаю, як я аналізаваў Караткевічава слова «прыўкрасны». Адразу яго пераналі тыя, хто меў адносіны да гістарычнай літаратуры.

Л.Р: Я, напрыклад.

П. Ж.: Потым, гляджу, слоўнік новых слоў ужо фіксуе гэтую лексему, хаця, напрыклад, шаноўны Алесь Каўрус выступіў за яе непрыняцце. Караткевіч на машынапісе «Зямлі пад белымі крыламі», дзе рэдактарам закрэслена слова «прыўкрасны», на палях піша: «Ёсць такое слова. Глядзі Раманава». Відаць, меў магчымасць чытаць тамы этнографа Раманава ў Кіеве, у нас жа тыя рарытэты згарэлі падчас вайны…

П. Ж.: Класіка павінна быць на першым месцы. Лепш, чым пісаў Янка Брыль, сёння напісаць вельмі цяжка. А некаторыя пісьменнікі пачынаюць, нібыта да іх ніхто не пісаў. Караткевіч жа казаў: мы ўсе быццам мазаіка — выцягні які каменьчык, няхай не самы значны, але ён займае сваё месца, і ўвесь узор разбурыцца.

А. Б.: Дзе ёсць Брыль і Купала, павінна быць і сучасная літаратура. Кожная маладая генерацыя працуе па-свойму, не паўтараючы папярэднікаў, не лепш і не горш. Параўноўваць класікаў ХХ стагоддзя з сённяшнімі пісьменнікамі — памылковы шлях.

**Пра мову гістарычных твораў**

…А. Б.: … Вялікую справу зрабіў Алесь Разанаў, калі пераклаў на сучасную мову творы беларускіх пісьменнікаў сярэднявечча. Мы не ведаем, што ёсць такая літаратура, бо не можам яе прачытаць.

П. Ж.: У беларускай мове засталіся элементы стараславянскай мовы, якіх у рускай няма. Напрыклад, дзеяслоўная форма плюсквамперфекта ў рускай мове ператварылася ў часціцу «было»: «он сказал было», «она сказала было». У беларускай мове — «сказаў быў», «сказала была», у залежнасці ад роду. Таму, калі ў беларускага аўтара каша ў галаве ў сітуацыі білінгвізму і ён думае і на адной мове, і на другой, так атрымліваецца і ў тэксце.

Л. Р.: Мы шмат прапусцілі, той жа перыяд рамантызму XIX стагоддзя, калі ў іншых культурах вербалізавалася і гераізавалася нацыянальная гісторыя. Дык няхай запозна — але ўсё запаўняецца.

А. Б.: Калі замест тарашкевіцы прынялі наркамаўку, праблем не ўзнікла, бо было шмат носьбітаў мовы. А я вось, як аўтар тэкстаў для песень, цяпер сутыкнуўся з тым, што спевакі, якія не вельмі добра ведаюць мову, вымаўляюць так, як напісана — «снег», «не ведаю», і мне даводзілася проста на партытуры дапісваць алоўкам у слове «снег» мяккі знак пасля «с» і пазначаць пераход «е» ў «я» перад націскам…

П. Ж.: І нагадваць, што носьбітаў беларускай мовы ў свеце намнога больш, чым той жа македонскай ці славенскай. І македонцы ці славенцы сваіх моў не саромеюцца.

А. Б.: У мове столькі таямніц... Мы нейк з Андрэем Федарэнкам размаўлялі, я пытаюся: «Як у вас называюць у вёсцы зялёныя парасткі цыбулі?» Ён кажа: «Стрэлкі...» — «А ў нас — пішчы». — «О, — кажа, — дык можа, адсюль пайшло «пішчом лезці»?

Л. Р.: Мову ніколі да канца не вывучыш. Увесь час адкрываеш для сябе новыя словы, формы, выразы. І я ўсё жыццё з задавальненнем раблю для сябе гэтыя адкрыцці.

*(значна скарочана)*

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**
**zviazda.by**

АГРЭСІЯ

# «ПОСЛЕДНИЙ РАЗ ЭТО БЫЛО РАНО УТРОМ 41-ГО...»

**Почему за войну ответят все.**

— Все, что я знаю об истории, говорит о том, что подобная авантюрная политика никогда не оставалась безнаказанной, — пишет на Эхе Москвы научный сотрудник University College London Владимир Пастухов. — Не вижу ни одного основания для того, чтобы история сделала именно в отношении Путина какой-то особый зигзаг и на этот раз было как-то иначе, чем обычно.

Ответит не Путин — ответят все. И те, кто хлопал, и те, кто просто стоял рядом открыв рот, но ничего не делал, и первые ученики, и двоечники. Это не ошибка Путина и не ответственность Путина. Это ошибка всей нации, в той степени, в которой о ней можно говорить в России, и ее ответственность. Бремя будет на всех.

Бумеранг вернется не быстро, но неотвратимо. Чем громче и веселее будет играть военный марш вначале, тем отвратительнее будет похоронный в конце, тем дольше и мучительней будет агония. Цена будет невероятно высокой, о которой страшно думать.

Это война уже проигравшего Путина. План был другим. Ждали капитуляции и западных послов. Загнали себя в угол, из которого не нашли выхода. Понятна мизансцена на шоу Совета безопасности. Да, это был сбор подписей кровью, чтобы никто не соскочил.

Фатальная недооценка Запада. Судят по текущим фрикам и думают, что это и есть Запад. Запад силен своим вторым институциональным слоем и в общем умеет объединяться против чужаков. Он видел в своей истории разных гуннов и умеет их готовить. Каждый раз, когда Россия выступала против единого Запада, это заканчивалось для нее катастрофой. Раскола Запада не произошло, а остановиться уже не смогли.

Даже если предположить, что операция закончится за несколько дней малой кровью и установлением в Киеве марионеточного режима, это ничего не меняет в горизонте 4-8 лет. Оккупация Украины, прямая или косвенная, станет удавкой на шее России. Западу тоже придется не сладко, но он выдержит. Это хуже, чем военное преступление — это военная авантюра. Нервный срыв элит.

Последний раз это было рано утром 41-го. Но тогда это не было делом рук братского народа. Тот страшный сон длился четыре года. Не настраивайтесь на быстрое пробуждение. И на этот раз утро наступит не завтра. Ночь будет долгой.

**gazetaby.info**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 28.02.2022 у 15.15
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.